


ВІНШУЕМ УСІХ НАСТАЎНІКАЎ

№ 41 (1157) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 14.X.1979 г.

**Д. Слаўковіч**




Мама спяшаецца на работу. А Шурыку спяшацца няма куды.

— Не замыкай, — просіць Шурык, хоць ведае, што дарэмна: мама ўсё роўна павесіць на дзверы замок.

— Цябе не замкні, дык я за дзверы — і ты ўслед.

— Мама...

— Не прасі. Ці даўно тэмпература высокая была? Забыўся, як пякучыя гарчычнікі на спіну ляпілі? Вучы ўрокі, каб не адстаць ад класа.

— Я ж не ведаю, што задалі.

— А ты па парадку.

Шурык уздыхае і адварочваецца, а мама выходзіць.

Застаўся Шурык адзін. Сумна яму. Як раней, дык хоць Сяргей заходзіў. А пасля таго, як пасварыліся, то ні нагою.

„Хоць бы пісьмо Сяргей напісаў, — думае Шурык. — Пісьмо... А калі самому яму напісаць? Першаму?"

Выдраў Шурык лісток са сшытка, узяў ручку. Напісаў: „Пісьмо Чыкуну Сяргею".

Падумаў і дадаў: „Вельмі важнае пісьмо". Яшчэ падумаў трохі, нахіліў галаву набок і пачаў пісаць: „Сяргей, прыходзь да мяне мірыцца. Я сам бы да цябе прыйшоў, ды замкнёны сяджу. І праз акно не вылезеш, бо ўжо дубэльты мама ўставіла. Прыйдзі, адамкні мяне. Ключ пад ганкам, у пустой бляшанцы. Разам пойдзем на вуліцу бегаць. А так мама мяне не выпускае, кажа, што хвароба не ўся выйшла. Падручнік загадала вучыць па парадку...

Сяргей, прыходзь хутчэй. Тата ўчора ляскаўкі купіў — цэлы пачак. Я табе іх пакажу. Захочаш — адну выстралім."

Шурык прыпыніўся, падумаў і дадаў:

„А за тое, што я цябе піхнуў у куст калючага агрэсту, не крыўдуй. Не хацеў я. Сам не ведаю, як атрымалася. І рукаў у тваім паліто на школьнай вешалцы гэта я зашыў за тое, што ты са старой Манінай футры ў класе смяяўся. А Маня плакала. Але ты пра рукаў той ды пра куст не думай. Прыходзь. Мы памірымся і будзем разам гуляць. І пасябруем зноў моцна-моцна, аж на ўсё жыццё."

Пісьмо было гатова.

Потым сеў у кухні ля акна, каб відно было паштовую скрынку, і пачаў чакаць. Бо ведаў, што восьвось цётка Соня газету прынясе.

І праўда. Праз колькі часу паказалася паштальёнка. Яна дастала

*(Працяг на стар. 7)*



# П В

*П П П П П П п п п п п п*

*т п т п т п пах пух лапы*

*Паліна і Ніна пісалі. Іра,*

*Пілат і Патап рашалі.*

*В В В В В В В В В В В В*

*в в в в в в в в в Вара Вова*

*вароты карова варона*

*Ларыса і Вара варылі кашу.*

**Р. Пшымус**

# Найбольшы букет

Набліжаўся Дзень Настаўніка. У кожным класе праходзілі таямнічыя нарады, як лепей падрыхтавацца да гэтага дня, якую неспадзяванку зрабіць настаўніцы. Толькі ў нашым пятым „б“ нічога не дзеялася. А ва ўсім былі вінаватыя дзяўчаты... Так прынамсі меркавалі хлопцы.

Тыдзень перад тым настаўніца аб'явіла, што будзе дыктоўка па польскай мове. У класе зашумелі, а на перапынку Войтэк з горыччу ў голасе сказаў:

— Я не спадзяваўся, што настаўніца будзе нас мучыць перад самым Днём Настаўніка...

— І я, — згадзіўся Юрка. — А найгоршае тое, што трэба ж напісаць на пяцёрку, каб не зрабіць настаўніцы прыкрасці перад яе святам. Цяжкая справа...

— Ой, цяжкая, — уздыхнулі мы хорам. — І што будзем рабіць?

— Што будзем рабіць?! — крыкнуў Войтэк. — Проста падрыхтуем сабе шпаргалкі...

— Няхай толькі хто спрабуе прынесці гэты „навуковы дапаможнік“, ды мы з імі потым пагаворым! — адазвалася наша гаспадыня класа Крыська.

— Не крычы, Крыся, — сказаў спакойна Юрка. — Мы ж хочам, каб настаўніца была задаволена нашай дыктоўкай.

— Трэба вучыцца, а не ашукоўваць.

— Крыся... — пачаў я, але Войтэк спыніў мяне.

— Не паніжайся перад ёй! Мы яшчэ з ёй палічымся! Хадзіце, хлопцы!

Мы выйшлі на калідор. Пасля хвіліны маўчання, Юрка сказаў:

— Дыктоўку трэба напісаць добра, на гэта цяпер адзіны спосаб.

— Які?

Нічога не зробіш, трэба паўтарыць сабе ўсе правілы і патрэніравацца ў дыктоўках...

Пасля ўрокаў мы засталіся ў класе.

— Бярыце сшыткі, — загадаў Юрка. — Я падыктую вам розныя словы, а хто зробіць памылку, той не будзе граць у нашай футбольнай камандзе. Зразумелі?

— Зразумелі.

Калі мы скончылі нашу дыктоўку, праверылі карткі, тады аказалася, што ніхто не памыліўся. Можа падзейнічала пагроза капітана, а можа таму, што мы думалі пішучы, што не заўсёды нам удавалася на сапраўднай кантрольнай, калі мы лічылі на спісанне.

— Заўтра паўторым цяжэйшыя словы і розныя выключэнні, — сказаў Юрка. — Падвучыцеся старанней. А цяпер давайце падумаем, як мы, хлопцы, падзякуем настаўніцы ў Дзень Настаўніка.

— А дзяўчынкі? — спытаў хтосьці.

— Хай самі аб гэтым клапоцяцца.

— Правільна! — падтрымаў Войтэк. — Толькі ані слова дзяўчынкам. Я прынясу з нашага агародчыка букет руж.

— І вывучым якія-небудзь прыгожыя вершы...

У класе мы захоўваліся, як бы нічога не было.

Аднойчы Крыська падышла да Войтка і сказала:

— Пра Дзень Настаўніка вы напэўна забыліся?

Мы пераглянуліся, але не выдалі сябе. Юрка паспяшыў адказаць:

— Мы, хлопцы, складзем свае віншаванні асобна.

— Як гэта? — крыкнулі дзяўчаткі. — Трэба гэта зрабіць супольна, нават калі мы ў нязгодзе... Настаўніца не можа даведацца, што ў класе нядобра, бо ёй будзе прыкра. Ды яшчэ ў такі дзень...

— Нічога не выйдзе! — адказаў Войтэк ад нашага імя, а дзяўчынкі паглядзелі так сумна, што нешта ўкалола нас у сэрцы.

Назаўтра мы напісалі дыктоўку. Настаўніца аддала нам лісткі ўжо на наступны дзень і сказала з усмешкай:

— Цешуся, што амаль зусім няма памылак. Асабліва зрабілі мне неспадзяванку хлопцы: яшчэ ніколі не было столькі добрых ацэнак...



— Бо яны, як захочуць, дык могуць... — уставіла Крыська, і ўсе дзяўчынкі ўсміхнуліся нам.

— Пэўна што... — буркнуў Войтэк. — З намі можна ўсё зрабіць...

І сапраўды. На Дзень Настаўніка мы прыйшлі раней у школу. Зараз з'явіўся Войтэк.

— Што гэта? Ты прынёс два букеты? — здзівіліся мы.

— Ведаеце, я так падумаў: дзяўчынкі, напэўна, забудуцца пра кветкі. Дык мы дадзім ім адзін букет, а самі ўручым другі...

— Вельмі добра, — пахвалілі мы яго.

У гэты момант у клас увайшлі дзяўчынкі і наблізіліся да нас.

— Чаго вам трэба? — спытаў грозна Юрка.

— Мы хочам, каб вы разам з намі ўручылі настаўніцы гэтыя ружы, — сказала Крыська, паказваючы прынесеныя ёю два цудоўныя букеты чырвоных кветак, на якіх блішчэлі кропелькі расы.

— Не трэба, у нас свае ёсць, — азваўся Войтэк. — А гэты другі букет для вас. Мы думалі, што вы забудзецеся...

— Цяпер у нас аж чатыры букеты для нашай настаўніцы, — сказаў хтосьці.

Мы глядзелі адзін на аднаго і ўсміхаліся.

— Не, цяпер у нас адзін вялізны букет ад усяго класа... — сказаў упэўнена Войтэк.

Настаўніца была вельмі ўзрушана тым, што мы памяталі.

— Яшчэ ніколі я не атрымала ад вас такога букета... Не спадзявалася...

Мы таксама не спадзяваліся такога заканчэння справы з дзяўчынкамі, але, вядома, настаўніцы мы не сказалі аб гэтым.

## 4 КІЛАМЕТРЫ ЗА ГАДЗІНУ

Вада ў Вісле, якую мы можам убачыць у Варшаве, толькі ў невялікай колькасці паходзіць з двух горных струменняў з-пад Бараняй Гары. У Віслу ўпадае ж шмат малых і вялікіх прытокаў. Але, вядома, разам з вадой з гэтых прытокаў, цячэ і вада з Белай і Чорнай Вісэлкі. На тое, каб вада ад крыніцы Віслы дайшла аж да Балтыйскага мора (1100 кіламетраў), патрэбна каля 10 дзён. Як паказалі памеры, хуткасць вады ў Вісле — каля 4 кіламетраў за гадзіну.

## НАЙДАЎЖЭЙШЫ ТУНЕЛЬ

У Японіі, паміж астравамі Нансю і Хакайда, будуецца найдаўжэйшы ў свеце падводны тунель. Ужо пабудаваны першы адрэзак тунеля даўжынёй 21 кіламетра. Да гэтага часу найдаўжэйшым тунелем на свеце быў Сімплонскі тунель у Альпах на швейцарска-італьянскай граніцы — 19,8 кіламетра.

Падморскі тунель у Японіі будзе мець даўжыню 53,8 км.

## СОЛЯР

Соляр — гэта назва ручнога гадзінніка, які парушаецца дзякуючы сонечнай энергіі. Каб батарэі пусціць у рух, трэба іх патрымаць на сонцы каля 4 мінут у суткі. Можна таксама патрымаць іх на сонцы каля 6 гадзін, і гэтага хопіць, каб гадзіннік хадзіў цэлы месяц. Гадзіннікі „Соляр“ вырабляюцца ўжо ў многіх фірмах на свеце.

## 14 МОРАЎ

Аж 14 мораў можна налічыць вакол граніц Савецкага Саюза. З поўначы, паўночнага захаду і паўночнага ўсходу будуць гэта такія моры: Балтыйскае, Барэнцава, Белае, Карскае, мора Лапцевых, Усходнесібірскае, Арктычнае, Чукоцкае, Берынгава, Ахоцкае і Японскае. На поўдні — Чорнае, Азоўскае і Каспійскае, якое, праўду кажучы, з'яўляецца найбольшым на зямным шары возерам.

## БАГАТЫ КАНТЫНЕНТ

Антарктыда будзе скарбам нашай планеты. Савецкія вучоныя, даследуючы гэты кантынент, адкрылі там багатыя залежы вугалю, значна большыя, чым на ўсіх іншых кантынентах свету. Знойдзены таксама вялікія залежы жалезнай руды, медзі, нікелю, волава, золата, срэбра, платыны, урану і іншых металаў і мінералаў.

Па думцы савецкіх вучоных, выдабыванне гэтых багаццяў на Антарктыдзе стане магчымым за 20-30 гадоў, калі будуць вынайдзены новыя тэхналогіі выдабывання і перапрацоўкі мінералаў.

## НАЙЛЕПШЫ ПАДАРОЖНІК

Пінгвін з'яўляецца найлепшым падарожнікам. Напрыклад, пінгвін Адэлі, які жыве на Антарктыдзе, праходзіць у пошуках ежы каля 150 кіламетраў у дзень і то з хуткасцю 60 кіламетраў за гадзіну. А па лёдзе ж не так лёгка хадзіць!

# Пазнаёмімся

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Островского 38-25. Полтавцевой Нелли. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Сумгаит, 9 м-он, дом 29/26, кв. 40. Размик Кизокян. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Ядвіга Верамчук, 15 гадоў, 17-200 Гайнаўка, вул. Вжосова, 6.

* ✲ *

Аз. ССР, 373200, г. Сумгаит, 19 квартал, дом 18/26, кв. 8. Кочерян Стэлла. Дзяўчынцы 16 гадоў.

* ✲ *

СССР, г. Ростов н/Д, ул. Лихачёва, д. 23, кв. 3. Безугловой Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

СССР, 183034, г. Мурманск, ул. Лобова, д. 11, кв. 47. Сотниковой Светлане.

* ✲ *

Міраслаў Рагоза, вучань пятага класа, в. Крывяцічы 19, пошта 17-106 Орля, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Искра 59-63, Зайковой Лене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Марыя Мінюк, вучаніца чацвёртага класа, в. Радзькі 3, пошта 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, г. Иркутск, ул. 5-ая Советская, 5. Муравьёвой Ирине.

*(Працяг са стар. 2)*




з тоўстай карычневай сумкі тату газету, склала і апусціла ў паштовую скрынку. І толькі хацела пайсці са двара, як Шурык забарабаніў у шыбу.

Паштальёнка здзівілася, а Шурык фортачку адчыніў і просіць:

— Цётачка Соня, аддайце гэтае пісьмо Чыкуну Сяргею, што цераз дарогу жыве. Я не магу, бо замкнёны. У мяне прастуда.

— Гэта ж не пісьмо, а проста ліст паперы без канверта.

— Канверт я вам потым адкуплю, калі ў школу хадзіць буду.

Паштальёнка ўсміхнулася, працягнула да форткі руку:

— Давай пісьмо. Занясу твайму Сяргею.

А неўзабаве забразгаў, зашкрабаў ключ у замку, і ў пакой увайшоў Сяргей.

— Атрымаў пісьмо? — замест прывітання запытаў Шурык.

— А як жа!

— А гэта навошта! — паказаў Шурык на расшпілены партфель з падручнікамі і сшыткамі, які трымаў у руках Сяргей.

— Дык цётка ж Соня сказала, каб я да цябе ўрокі рыхтаваць ішоў. Разам.



РАСФАРБУЙ МАЛЮНАК КАЛЯРОВЫМІ АЛОЎКАМІ.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**